Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 37. Вільня, Нядзеля, 7-га верасьня 1924 г. Год I.

## Змаганьне за самаурады.

Усім ведама, якое ў нас істнуе гміннае „самаупраўленьне“: за малымі выняткамі, дзе гмінныя рады выбраны народам па яго ўласнай мысьлі, наш гмінны самаўрад—гэта толькі адна мана, бо-ж сябры яго былі паназначаны йшчэ польскай *акупацыйнай* уладай – у часы ліхое памяці „панаваньня“ генаральнага камісара Усходніх Зямель, п. Юрыя Асмалоўскага.

Але дзе-не-дзе ўсё-ж такі адбыліся за апошнія гады і новыя выбары. I вось мы бачылі, як усюды, дзе была дадзена нашым сялянам свабода выбараў,—там склад гмінных радаў аказаўся бадай выключна беларускі, а кандыдатаў польскіх паноў і адміністрацыі закідывалі „чарнякамі“.

Гледзячы на тыя шчасьлівыя гміны, у якіх дзеля тэй ці іншай прычыны старыя гмінныя рады „па назначэньню“ былі зьліквіданы і заменены выбарнымі, сяляне звараючацца на нашае Рэдакцыі з пытаньнямі, як ім дабіцца перавыбараў іх радаў. Вось, на гэта вельмі трудна даць адказ. Старыя правілы аб гмінным самаўрадзе ў Польшчы, маючы часовы характар, не абгаварылі гэтага пытаньня, як сьлед. Новыя-ж законапраекты, выпрацаваныя п. Кернікам і прадстаўляючыя грубую насьмешку і зьдзек над правам народу на самаўрадаваньне, яшчэ „адлежываюцца“ ў варшаўскім Сойме...

Аднак, жыцьцё паказуе, што бываюць выпадкі, калі вышэйшая ўлада (міністэрства ўнутраных спраў) распускае старыя гмінныя рады. Такі прыпадак быў нядаўна ў Лучайскай гміне, Дунілавіцкага пав., дзе міністэрства распусьціла гмінную раду, і дэлегат ураду на Віленшчыну вызначыў новыя выбары. I выбары гэтыя, як паведамляе „Słowa“, мелі такі вынік, што з 10 выбраных сяброў рады прынамся 2 прызнаюць сябе адкрыта беларусамі (у старой радзе ўсе былі палякі!), ды па рэлігіі, ня гледзячы на 80% каталіцкае люднасьці, ня ўсе каталікі, а ёсьць і 1 праваслаўны. Усе выбраныя — гаспадары, маемасьць каторых не пераступае 25 дзесяцін.

Мы ня маем дэтальнае справаздачы аб выбарах у Лучаю, ня чулі нічога і аб перадвыбарнай агітацыі тамтэйшых нашых дзеячоў. Дык тым цікавей факт уваходу ў раду хоць двух сьвядомых беларусаў. I вось гэты вынік павінен заахвоціць нашу вёску да таго, каб ачысьціць гмінныя рады ад варожых нашаму народу людзей—навязаных яму радных спаміж польскіх паноў і паўпанкаў.

Калі закон не дае магчымасьці народу самому скінуць гэныя „эрзац-рады“, якія займаюцца адно толькі тым, што звальняюць ад гмінных цяжараў багатае панства і ускладаюць іх бадай выключна на працоўнае сялянства (праўка дарог, падводы і інш.), дык трэба зрабіць дружны націск на вышэйшую ўладу, каб яна зьліквідавала да канца гэны дзікі перажытак „асмалоўшчыны“ з часоў акупацыі. Трэба распачаць шырокую, арганізаваную дзейнасьць у кірунку *зьбіраньня подпісаў пад пратэстамі проці назначаных колькі гадоў назад акупацыйнаю ўладаю гмінных рад*, трэба гэтыя пратэсты *слаць у міністэрства, у Сойм і Сэнат, Беларускаму Пасольскаму Клюбу ў Сойме, Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту ў Вільні*. Шырацъ гэтую думку адваяваньня гмінных самаўрадаў,—трэба зьвярнуць увагу і на тое, *каб і павятовыя соймікі перасталі быць „фальваркам старостаў і абшарнікаў“*, а складаліся-бы з запраўды выбарных прадстаўнікоў гмінаў.

Наша вёска толькі наракае на цяжары, накладаныя на яе гэнымі самымі соймікамі, каторыя ўмеюць дзесяткі мільярдаў марак народных грошы выдаваць на урачыстыя спатканьні візытуючага тутэйшых палякоў п. Прэзыдэнта Войцехоўскага. Але аб якой-колечы барацьбе з гэткім ненармальным зьявішчам, што чужыя нам, нікім не выбраныя людзі „гаспадараць“ народным мазалём, — ня думае і не клапоціцца ніхто з тых, хто, жывучы ў вёсцы, мог-бы ўзяць на сябе ініцыятыву ў гэтай справе. I гэныя паны — стаўленікі п. Асмалоўскага і ягоных старостаў, „гаспадараць“, як самі хочуць, вельмі значнымі сумамі, з такім трудом зьбіраными з народнай крывавай працы. Напрыклад, у Віленшчыне на 1925 год праяктуюцца гэткія выдаткі ў бюджэтах павятовых соймікаў: у Браслаўскім пав.—292.000 злотых, у Дзісьненскім—920.000 зл., у Дунілаўскім — 645.000 зл., у Ашмянскім—381.000 зл., у Сьвянцянскім—555.000 зл., у Вялейскім—406.000 зл. і ў Віленска-Троцкім ажно 1.075.000 злотых, а ўсяго разам у гэтых сямёх паветах Віленшчыны вялізарная сума *4 міліёны 274 тысячы злотых*!

Вось, якія сумы маюць у сваіх руках павятовыя соймікі, ды гэтымі сумамі яны распараджаюцца не паводле волі сялянства беларускага, а выключна па волі польскага панства!

Мы падалі гэтыя цыфры, каб паказаць вагу паднятага намі пытаньня аб адваяваньні праўдзівага самаупраўленьня. I мы спадзяемся, што ў нашых вёсках, хоць і зацісьненых і стэрарызаваных, знойдзецца даволі жывых і сьмелых людзей, якія распачнуць працу ў кірунку ачысткі нашых самаўрадаў ад элемэнтаў, навязаных нам сілай—аружнай акупацыйнай уладай яшчэ ў тыя часы, калі нават сама Польшча (дый ніхто другі) ня лічыла Заходняе Беларусі „сваей“.

Побач з школьнай справай — справа самаўрадаў найбольш палючая ў нашым жыцьці.

## „Замах“ на Прэзыдэнта (?)

Пад сэнсацыйным загалоўкам „Замах на Прэзыдэнта“ польскія газэты зьмясьцілі тэлеграму ПАТ-а аб тым, што ў часе праезду Прэзыдэнта Войцехоўскага праз вуліцы Львова нейкі работнік, Станіслаў Штэйнэр, кінуў невялічкую пэтарду пад капыты каней уланаў, ехаўшых ззаду за фаэтонам Прэзыдэнта. Пэтарда, якая была наладавана мешанінай пораху і вялікшае выбуховае сілы ня мела, спачатку ня выбухнула і толькі тады пачала дыміцца, калі яе зачапілі коні сваімі капытамі.

„Dz. Wil.“ ўжыў гэтага пустога здарэньня дзеля цкаваньня проці жыдоў, называючы **Станіслава** Штэйнэра „жыдом“.

## У абароне пасла Барана.

Як мы даведаваемся ад нашага карэспандэнта з Парыжу, ініцыятыва абароны засуджаных у беластоцкім працэсе беларускіх дзеячоў пры помачы „Лігі абароны правоў чалавека і грамадзяніна“, а так-жа ў Лізе Народаў, выйшла з утворанага ў Парыжу „Камітэту паняволеных Польшчай народаў“, у які ўваходзяць і прадстаўнікі беларусаў.

У паданьні, пасланым гэтым Камітэтам у Раду Лігі Народаў, адзначана, што на заходня-беларускіх землях на ўсход ад лініі Керзона ад канца 1918 да 1921 году сем разоў зьмянялася ўлада (нямецкая акупацыя, заняцьце літвінамі, польская акупацыя, бальшавіцкая акупацыя, другі раз польская акупацыя, другі раз бальшавіцкая і трэці раз польская). У часе ўсіх гэтых акупацыяў мяйсцовая беларуская люднасьць старалася аб'яднацца з абвешчанай у Менску ў 1917 годзе Беларускай Народнай Рэспублікай. За гэтае імкненьне і засуджаны ў Беластоку беларускія дзеячы, якіх акт абвіненьня стараўся зьвязаць з бандыцкімі выступленьнямі, што, аднак, судом было адкінута. Судзілі іх за палітычную работу незалежніцкага характару з таго часу, калі **заходня-беларускія землі**, замацаваныя за Польшчай пастановай Рады Амбасадораў толькі 15-га сакавіка 1923 году, **яшчэ да Польскае Рэспублікі фармальна не належалі.** Грунтуючыся на апошнім, Камітэт просіць Раду Лігі Народаў аб інтэрвэнцыю ў Польшчы ў мэтахануляваньня судовага прыгавору ў адносінах да пасла Барана, А. Станкевіча, Жабінскага, Матэйчука, Гораша, Трыпузы і Веры Маслоўскай і звальненьня іх з вастрогу.

Аналягічныя паданьні пасланы Радзе Амбасадараў, прэм'ерам Францыі, Англіі і Італіі, паасобным палітычным дзеячам і парлямантарыям Францыі і Англіі, а такжа Радзе „Лігі абароны правоў чалавека і грамадзяніна“. Апошняя, як мы ўжо падавалі, зрабіла пастанову аб інтэрвэнцыі з свайго боку ў Лізе Народаў— як у справе беларускіх дзеячоў, так і ў справе бясправуна заарыштаванага сябры украінскага (галіцкага) ўраду, д-ра Сэлэзэнкі.

## З паліцэйскага „раю“.

Сацыялістычная польская газэта „Robotnik“ друкуе цікавы адкрыты ліст нейкага варшаўскага „пшодоўніка“ дзяржаўнае паліцыі аб тым, як дрэнна і голадна жывецца ніжэйшым паліцыянтам за тую мізэрную пэнсію, якую плаціць ім польскі ўрад...

Газэта ані водным словам не камэнтуе гэтага лісту, — значыць — яна ня мае проці ўсяго яго зьместу ніякіх „засьцярогаў“.

Дык дзеля таго вельмі пікантна падаць некаторыя адрыўкі з гэтага лісту.

Пан пшодоўнік паліцыі піша, што ён зьвяртаецца да органу польскіх сацыялістаў дзеля таго, што „паміж работніцкай клясай і органамі службы публічнае-бясьпечнасьці, гэта ёсьць —Паліцыяй (вялікай літарай) ёсьць „szereg wspólnych cech“ — (рад супольных адзнак).

„Першая супольная адзнака — як работнік, таксама і дзяржаўны ўрадовец ніжэйшае катэгорыі (папросту — паліцыянт) аднолькава церпяць голад і ўбожства, ня маюць кватэраў, абодва рызыкуюць жыцьцём, абодва ня маюць забясьпечаньня старасьці“.

...шай службы. — Работнік сваё здароўе, здольнасьці і сілы ахвяруе на разьвіцьцё дабрабыту дзяржавы; — таксама — паліцыянт усяго сябе аддае ў ахвяру для забясьпечаньня публічнага ладу і спакою, аддаючы часта і свае жыцьцё ў абароне Рэспублікі“... (ўсё гэта, ведама — ў Польскай Рэспубліцы!).

„Трэцяя супольная чырта, хаця й няпрыемная, а нават і трудна зразумелая для лягічнага розуму, гэта — *незразуменьне ўрадам гэтай ролі і патрэбаў тых, хто зьяўляецца апорай дзяржавы*“...

Маючы на ўвазе ўсе гэтыя „супольныя чырты“, польскі паліцыянт просіць орган польскіх сацыялістаў пры праектаванай рэарганізацыі дзяржаўнай паліцыі падтрымаць дамаганьні ніжэйшых працаўнікоў апошняе аб павялічэньні іх пэнсіяў, *дадаючы вельмі выразна, што „справа йдзе аб бясьпечнасьці краю, які ня можа спакойна глядзець у прышласьць, калі расьце нездаваленьне органу, якому цалком даверана ахова Дзяржавы*“...

У гэтым лісьце вельмі пікантна прызнаньне газэтай PPS з свайго боку свайго „радзтва“ з польскімі

нас, памятаючых „wspólne cechy“ PPS ня толькі з Дзяржаўнай Паліцыяй, але і з Дэфэнзывай (клясычны капітан Ярэцкі, пэпэзсавец-дэфэнзыўшчык, які закапаў нявіннага Барана!..) — ўсё гэтае — ня дзіва...

Другое, што ня менш цікава ў гэтым лісьце, гэта — *пагроза*, якую дазваляе сабе рабіць ня толькі па адрасу ўраду, але нават — самай „прышласьці польскай дзяржавы“, — той, каму даверана „służba bezpieczeństwa“...

Здаецца, — пара ўжо ў Польшчы зразумець, што, калі „дзяржава“ будуецца так, што толькі „вышэйшым“ у ёй добра і сытна, а „ніжэйшым“, — ды яшчэ й паліцыянтам! — голадна, калі не забясьпечана нават „służba bezpieczeństwa“, дык — „ніжэйшыя“ пачнуць шукаць забесьпячэньня дзесь у іншым месцы...

З лісту варшаўскага „пшодоўніка“ відаць такжа, як небясьпечна нават для польскіх паліцыянтаў пастаянная барацьба... з камунізмам!

Калі ў самай Варшаве паліцыянты пагражаюць... грозным для будучыны дзяржавы „нездаваленьнем“, дык ці-ж дзіва, што на „Крэсах“ — на пагранічны, як піша „Kur. Poran.“, яны масава бягуць праз кардон да тых самых камуністаў, з якімі, да пабегу, вядуць заўзятую барацьбу, рызыкуючы жыцьцём.

---

У другім з апошніх нумароў „Robotnik“ зьмяшчае вельмі цікавы ліст з „крэсаў“.

Вось што піша карэспандэнт газэты, — можа таксама абражаны „вышэйшымі“ паліцыянтамі „пшодоўнік“...

„Нашае начальства мае вельмі многа вольнага часу, які дазваляе яму вылівацъ сваю энэргію ў значна больш бясьпечным напрамку, чым барацьба з бандамі, бо ў адносінах да сваіх-жа падуладных — ніжэйшых паліцыянтаў“. — Аказываецца, што „паліцэйскія паны“ ў спакойныя часы ўвесь свой вольны час аддаюць паляваньню ня толькі на зайцоў, але і на „паліцэйскіх хамаў“...

Каб умацаваць пачуцьцё свайго „панства“, гэтыя „вышэйшыя“ шукаюць найменшае прычэпкі, каб „плюнуць у твар ніжэйшым“...

Калі гэтая „сьліна пана каманданта“ падзе на чалавека многасямейнага, дык гэты „белы нявольнік“ вытра разам са сьлязьмі плявоціну пана каманданта павету ці яго заступніка і будзе і надалей чакаць новых абразаў і ўніжэньняў“.

„Але калі нехта з паноў камандантаў плюне ў твар чалавеку, менш зьвязанаму сямейнымі абавязкамі, або больш шанаючаму свае ўласнае „я“, што бывае тады?“ пытаецца карэспандэнт, ды сам-жа кажа:

„Тады *радзеюць рады паліцыі на крэсах.* Тады абражаныя ў сваей чалавечай годнасьці „паліцэйскія хамы“ — або кідаюць паліцэйскую службу, — або страляюць сабе ў лоб (?), або *робяць нешта „яшчэ горшае за ўсё гэтае“*: такі паліцыянт *„пераходзіць граніцу, каб на радавым грунъце павялічываць кадры харкаўскіх ці кіеўскіх (або менскіх?) вайсковых (дывэрсыйных) школаў“...*

Вось, вось яно! — Вось, што *польскія сацыялісты лічаць „горшым за ўсё“* — горшым за тое, што ўжо ў згодзе, — як „панамі“, тэксама і „хамамі“, вытвараецца над беларускім насяленьнем,—за ўсе тыя катаваньні і зьдзекі над безбаронным народам...

*Польскія паліцыянты бягуць з польскага паліцэйскага раю — за радавую граніцу, каб там атрымлівацъ „вышэйшае ўзгадаваньне“, — як актыўныя, збройныя ворагі Польшчы...*

Вось запраўды страшэнны, грозны прысуд і ня толькі для нашага крэсавага „раю“, але можа *і для ўсей сучаснай Польшчы...*

З Польшчы бягуць за радавы кардон тыя, хто, як „маючы супольныя рысы“ з польскімі сацыялістамі варшаўскі пшодоўнік, творацъ „апору і падставу дзяржавы“, — *бяжыць сама Польская Дзяржаўная Паліцыя...*

„Паны каманданты паліцыі сваім дэспатычным абходжаньнем напладзілі ўжо некалькі дзесяткаў ...Хмяльніцкіх, якія, ведаючы добра гранічныя адносіны, могуць учыніць шмат зла Польшчы“.

І вось, карэспандэнт і газэта „Robotnik“, каб парадзіць на гэтае зло, рэкамандуюць шукаць на яго лекаў у ...найвышэйшых „паліцэйскіх паноў“ у Варшаве,— бо ў самага пана Галоўнага Каманданта Дзяржаўнай Паліцыі... — Ён, гэты Галоўны Камандант, на тое і ёсьць галоўны, каб вылячыць ці спыніць усе гэтыя хваробы!...

І так, карэспандэнт з „крэсаў“, як відаць, вельмі блізкі *да паліцэйскіх сфэраў*, сцьвярджае, што „выпадкі ўцяканьня польскіх паліцыянтаў у радавую Расею здараюцца вельмі часта“... (Мы самі ведаем напрыклад, што ў Радашковічах уцяклі аж 3 за адзін тыдзень).

У ва ўсіх афіцыяльных рапартах „паліцэйскіх паноў“ аб выпадках дэзэрцыі „хамаў“ заўсёды паказана, як прычына „ўцечкі“, што „ён меў за сабой грахі чыста крымінальнай (угалоўнай) прыроды, ці штось у гэтым родзе“, але ніколі не гаворыцца аб тым, што ён стаўся ахвярай „паліцэйскіх паноў“.

„Праўда, — сцьвярджае даволі аб'ектыўна сам карэспандэнт, — *палова гэтых дэзэртыраў* складаецца з людзей новапрынятых на службу, *меўшых за сабой ужо справы, якія маглі-б завясьці іх у вастрог, ды яшчэ на „колькі гадоў“...*, але за тое *другая палова* гэтых выпадкаў дэзэрцыі, на прычыну якіх карэспандэнт і газэта хочуць зьвярнуць асаблівую ўвагу ўраду і польскага грамадзянства, выклікана якраз гэтай *абразай годнасьці чалавечай ніжэйшага паліцыянта вышэйшым.*

І так, як сцьвярджае к-нт, з „крэсавага раю“ ў „радавае пекла“ бягуць — *як найбольш праступныя элемэнты мясцовае паліцыі, якія спэцыяльна зганяюцца польскім урадам на нашыя „крэсы“, таксама і „найбольш“ учцівыя (чэсныя), маючыя ў найвышэйшай меры разьвітае пачуцьцё асабістай годнасьці, найбольш амбітныя адзінкі, — найбольш карысныя для грамадзянства“...*

І вось, дэзэрцыю ў — край камунізму гэтых „учцівых“ і „амбітных“ адзінак якраз выклікаюць „сваім адношаньнем паны вышэйшыя ўрадоўцы паліцыі“...

Калі-б орган польскага сацыялізму меў у галаве больш гэтак званага „абагульняючага“ розуму, дык ён зразумеў-бы, які запраўды ярка-сымвалічны абраз прадстаўляюць адносіны на польскіх „крэсах“ дзеля зразуменьня ўсяго характару сучаснай Польшчы...

Мы заўсёды пісалі аб тым, што, як дыягнозу, таксама і лячэньня ўсіх хваробаў сучаснай Польшчы трэба шукаць на „крэсах“. Можа нават „ўладаньне крэсамі“ якраз і зьяўляецца галоўнай хваробай Польшчы?!...

Дэзэрцыя ...ў камунізм, ці ў „край камунізму“, пры гэтым — ня толькі „найбольш праступных“, але, нажаль, і найбольш „учцівых“, амбітных і грамадзянскіх — карысных адзінак, трактаваных „панамі“, як „хамы“, — у „дэмакратычнай Польскай Рэспубліцы“ — вось, як здаецца, — агульная для ўсяго панска-паліцэйскага гаспадарства небясьпека, толькі найбольш ярка выяўленая ля радавай граніцы — на „крэсах“...

І ці-ж не таксама сымвалічна тое, што апэляваць проці гэтай небясьпекі прыходзіцца ў Польшчы да наагул вельмі цямоцнай галавы „польскага сацыялізму“, якая з свайго боку скіровывае ўсе гэтыя апэляцыі ...да пана Галоўнага Каманданта Дзяржаўнай Польскай Паліцыі?...

Вось у асобе і ўладзе гэтага Галоўнага Каманданта „розум“ польскага сацыялізму і бачыць, відаць, лек для ўсіх сацыяльна-палітычных бед і хваробаў Польшчы!...

**В.**

# Што плацім, — аб тым ня ведаем.

Бадай у кожнай карэспандэнцыі, якая прыходзе да нашай газэты з вёскі, сустракаем нараканьні — і зусім справядлівыя — на польскую падатковую сыстэму, якая прост засыпывае народ рознымі падаткамі — незразумелымі для народу, ды дакучліва частымі і цераз меру высокімі.

Тое-ж гавораць сяляне кожнаму сьвежаму чалавеку, які е пападае ў вёску і якому сяляне давяраюць....

Але хіба мала каму вядома, што ўсе тыя **яўныя** падаткі, якія кожын гаспадар плоце грашыма ў валасьці паводле спэцыяльнае раскладкі,— гэта толькі меншая частка таго, што бярэ ў яго скарб наагул. Бо, апрача падаткаў яўных, ці беспасярэдніх, у Польшчы істнуюць яшчэ падаткі **укрытыя**, ці так-званыя „пасярэднія“, якія народ выплачывае, зусім аб гэтым ня ведаючы.

Вельмі цікавыя цыфры гэтых укрытых падаткаў падае газэта „Wyzw. Ludu“ ў № 24 — з 24-га жніўня г.г.:

„Аб пасярэдніх падатках людзі вельмі часта зусім і ня ведаюць, часта й не прачуваюць, што кожын мамэнт выплачываюць іх. Гэта — падаткі ад солі, цукру, тытуну, сернікаў, сьпірту, газы, дрожджаў і г. д., пасьля мытныя (гранічныя) аплаты, павялічываючыя цану прадуктаў.

„Чалавек, да прыкладу, купіў пудэлачка сернікаў, ці фунт солі, ці пачок тытуну, або кварту газы і нават не пачуў, што **ня толькі заплаціў за сваю куплю, але яшчэ і ў дзяржаўны скарб аддаў „акцыз“**, часта сягаючы паловы, або і вышэй, пакупное цаны самае куплі.

„Гэтыя ўкрытыя, пасярэднія падаткі **плоцяць нават жабракі**, бо-ж і ім трэба есьці. Палічана, што бедная сям'я, якая складаецца з пяцёх душ, выплачывае ў год такога ўкрытага падатку **каля 200 мільёнаў марак**, ды найчасьцей **аб тым сама ня ведае!** Вось-жа якраз гэтульк і плоце і сям'я багатага, бо-ж не спатрэбіць ані больш солі, ані больш сернікаў, ці тытуну.

„Вось якія хітрыя спосабы павыдумляла буржуазія!

„За некалькі гадоў істнаваньня польскае дзяржавы скарб меў **большую частку даходаў іменна з пасярэдніх падаткаў**, значыць, тых, якія асаблівым цяжарам кладуцца на працоўныя клясы.

„Капіталістаў, багатых — ня шмат, і калі-б кожны з іх нічога не рабіў, а толькі піў гарэлку, еў цукер, курыў тытун, глытаў соль і г. д., дык яны ўсе разам не далі-бы дзяржаве і дзясятае часьці тых даходаў, якія плывуць дзякуючы спажываньню гэных прадуктаў многамільённымі масамі працоўнага люду.

„Каб паказаць, скольк і ў дзяржаўных даходах ёсьць грошы з пасярэдніх падаткаў, падаем тутака скарбовыя даходы за першыя тры месяцы 1924 году:

„Звычайных даходаў агулам было 161.421.000 польскіх злотых, у тым ліку:

**З беспасярэдніх падаткаў**

**грунтовы, ад маемасьці і інш.**: 25.810.000 п. злот.

**З падаткаў пасярэдніх**:

| | |
|---|---|
| **укрытых, акцызаў**: . . . . . . . | 35.334.000 п. зл. |
| з мытных аплат . . . . . . . . . | 26.387.000 п. зл. |
| гэрбовы (штэмплёвы) збор . . . . | 12.401.000 п. зл. |
| з манаполяў . . . . . . . . . . | 15.964.000 п. зл. |
| з вывазных аплат . . . . . . . | 2.752.000 п. зл. |

„Значыцца, пасярэднія падаткі, мыта, манаполі, **якія роўна абцяжаюць усіх—багатых і бедных**, дасягалі агулам **77.685.000 польскіх злотых**, даючы блізу **палову (50%) усіх** звычайных **даходаў скарбу!**“

# Канфэрэнцыя Беларускага Студэнцтва Заходняе Беларусі і Беларускае Эміграцыі у Празе Чэскай.

(*Карэспандэнцыя з Прагі*).

Даўно ўжо адчувалася патрэба скліканьня беларускае студэнцкае Канфэрэнцыі, якая-б, сабраўшы па магчымасьці прадстаўнікоў усіх беларускіх студэнцкіх арганізацыяў, вырашыла вельмі многа неадложных і пякучых справаў, якія так даўно чакаюць свайго разьвязаньня. Беларускае студэнцтва ня мае свайго цантральнага аб'яднаўчага органу, яно амаль нідзе не прадстаўлена на рожных міжнародавых студэнцкіх зьездах і т. д. А час найвышэйшы зрабіць усё гэта, бо „што ня возьмеце сягоньня, таго і заўтра вам ня ўзяць“,— як кажа наш пясьняр Я. Купала. Вось-жа сярод некаторых сяброў у Празе і Вільні, гэтых галоўных асяроках беларускага студэнцкага жыцьця на Эміграцыі і Зах. Беларусі, паўстала думка, каб як найхутчэй склікаць падобны зьезд ці нараду, які-б і заняўся вырашэньнем пытаньняў, насьпеўшых да гэтага часу.

На адным з паседжаньняў пашыраных прэзыдыумаў трох пражскіх студэнцкіх арганізацыяў быў выбраны Арганізацыйны Камітэт, у які ўвайшлі: Грышкевіч В., Гузоўскі М., Каберац М., Клаўсуць і Яноўскі К. Камітэту гэтаму было даручана вясьці падгатаваўчую працу, а Грышкевічу спэцыяльна даручана было ўвайсьці ў як найбліжэйшыя зносіны ў справе Канфэрэнцыі з віленскім студэнцтвам, паінфармаваць яго аб на-

дакладна з вымогамі найбліжэйшага часу і паразумеўшыся ўзаемна аб усім з віленскім студэнцтвам, Арганізацыйны Камітэт пастанавіў склікаць Канфэрэнцыю беларускага студэнцтва Заходняе Беларусі і Эміграцыі ў Празе на 20-ае жніўня 1924 году.

Канфэрэнцыі трэба было вырашыць шмат пытаньняў, а самым галоўным з іх было ўтварэньне цантральнага аб'яднаўчага органу беларускага студэнцтва Заходняе Беларусі і Эміграцыі. Справа ў тым, што найвялікшай сусьветнай арганізацыяй студэнцтва зьяўляецца „Міжнародавая Канфэрэнцыя Студэнтаў—Confederation International des Etudiants“, скарочана С. І. Е., якая налічае 210.000 сяброў. Сябрам гэтае Канфэрэнцыі можа быць студэнцтва паасобных народаў толькі тады, калі яно зарганізавана ў нацыянальныя саюзы. Канфэрэнцыя гэта што-тры гады мае свае кангрэсы, прычым кожны раз у іншым мейсцы. Як ведама, кангрэс С. І. Е. сёлета павінен быў адбыцца ў верасьні месяцы ў Варшаве, а таму для беларускага студэнцтва было вельмі важна, каб дабіцца на ім прыняцьця нас прынамся вольнымі сябрамі Канфэдэрацыі.

Агулам, на павестцы дня нашаё Канфэрэнцыі былі такія пытаньні: 1) Адчыненьне Канфэрэнцыі, 2) Даклады дэлегатаў, 3) Утварэньне Цантральнага Органу Беларускага Студэнцтва і 4) Бягучыя справы.

Канфэрэнцыю адчыніў старшыня Арганізацыйнага Камітэту В. Грышкевіч, які прывітаў прысутных гасьцей і дэлегатаў і ў кароткіх словах адзначыў тую важную ролю Канфэрэнцыі, якую яна павінна будзе адыграць у беларускім

вялікае беларускае студэнцкае арганізацыі, якая толькі пачне свае жыцьцё з сёньняшняга дня.

Ад імя Беларускае Рады ў Чэха-Славацкай Рэспубліцы прывітаў Канфэрэнцыю гр. Захарка. Ён сказаў, што Канфэрэнцыя гэта ёсьць першым камянем пад будову сувязі грамады асьвечаных сыноў Беларускага Народу. Народ на студэнцтва пакладае вялікія надзеі, бо ў ім бачыць змагароў за сваё вызваленьне і незалежнасьць. Пажаданьнем як найбольшага усьпеху ў працы Канфэрэнцыі прамоўца закончыў сваё прывітаньне.

Ад імя Цантральнага Саюзу Украінскага Студэнцтва прывітаў Канфэрэнцыю Прэзыдэнт Саюзу ст. Масюкевіч. Паказваючы на супольную долю беларускага і украінскага студэнцтва, ён кажа, што украінскае студэнцтва пільна прыглядаецца да жыцьця беларускага студэнцтва і заўсёды прыйдзе яму з дапамогай. Як прэзыдэнт Цантральнага Органу Украінскага Студэнцтва, ён перадаець праз дэлегатаў беларускаму студэнцтву, дзе яно толькі знаходзіцца, гарачае прывітаньне ўсяго украінскага студэнцтва.

Ад Грузінскага Студэнцкага Саюзу вітаў Канфэрэнцыю ст. Джанжгава сьпярша па-грузінску, а пасьля, папрасіўшы прабачэньня, што іншай зразумелай сабраным мовай сваю прамову ён вытлумачыць ня можа, сказаў сваё прывітаньне па расейску. Сэрцы беларускага і грузінскага студэнцтва інстынктыўна разумеюць сябе. Нашы ворагі, а разам з тым і вашы, будуць рады таму, што мы не арганізаваны і ня сільны. Сёньняшні дзень у Вас вялікі, бо вы запачаткоўваеце вялікую працу і закладаеце грунт пад вялікую будову. Жадаю ўсьпеху Канфэрэнцыі і беларускаму

Газэта, з якое мы ўзялі ўсе гэтыя аблічэньні, робіць з усяго гэтага такі вывад:

„**Сяляне і работнікі такое падатковае сыстэмы на даўжэйшы час прызнаць ня могуць.** Сучасныя дзяржавы павінны ўтрымлівацца перадусім **тымі, каму яны служаць,**—значыць, **заможнымі клясамі.** Гэны вызыск народу, вызыск праз соль, сернікі, газу, тытун, цукер, праз рэчы неабходныя дзеля жыцьця—гэта-ж **дасьціпнае, ашуканскае перакіданьне заможнымі клясамі падатковых цяжараў на плечы народу!**

„Пасярэднія падаткі павінны быць скасаваны, а падатковыя цяжары наагул павінны легчы перадусім на тых, хто валадае вялікай маемасьцю: павінны ўтрымліваць дзяржаву яны, а не бедната, якая і так ледзьве жыве.

„Пара ўжо, каб селянін перастаў бяскрытычна, без пратэсту чытаць гэткія ўслужныя для паноў словы, як тыя, што колькі месяцаў назад пісаў п. Тугутт (былы галава „вызваленцаў!): „**З мужыка і работніка трэба ўзяць гэтулькі, сколькі можа даць, абы толькі з голаду не памёр**“.

„Але, ведама, ня трэба сябе ашуківаць, спадзяючыся на тое, што буржуазія самахоць згодзіцца вырачыся гэнага ашуканства. Прымусіць яе да гэтага здолее толькі цьвёрдая рука работніцка-сялянскага ўраду“.

# З газэт.

### Аб эндэцкіх мяркаваньнях.

Орган пэпэсаў „Robotnik“ гэтак піша аб эндэцкіх плянах „паправы“ польскае канстытуцыі:

> П. Станіслаў Грабскі у газэце „Słowo Polskie“ спавядаецца, як-бы гэта ён „паправіў“ польскую канстытуцыю. Мала яму Сойму і Сэнату, дык дадаець яшчэ Дзяржаўную Раду, складзеную з 10 сяброў, *назначаных* Прэзыдэнтам Рэспублікі, ды з 5 іншых, дабраных сабе гэнымі. Гэтая Рада Стану мае быць назначана на 10 гадоў, ды ей, паміж іншым, мае быць дадзена права даваць адстаўку Ураду тады, калі яна і Прэзыдэнт палічаць гэта патрэбным!
>
> Ведама, п. Станіслаў Грабскі хацеў-бы також „яшчэ перад зьменай Канстытуцыі“ папсаваць да канца выбарны закон. Дык дамагаецца памяншэньня лічбы паслоў і ўвядзеньня трох- і двух-мандатных акругоў.
>
> І з гэткім вось ананасам п. Тугутт маніўся сесьці разам у Урадзе!

Палітыка эндэкаў — ясная: яны хочуць абярнуць Прэзыдэнта ў „некаранаванага караля“—з „самадзяржаўнай уладай“.

Гэта—ня нова!

### Цікавае прызнаньне.

Орган партыі польскіх работнікаў-нацыяналістаў (Н. П. Р.) „Sprawa Robotnicza“ наракае на заходня-эўрапэйскіх сацыялістаў з II Інтэрнацыяналу, што яны

> змагаюцца тэорэтычна з камунізмам, але змагаюцца такім спосабам, які ня прыносе карысьці ім самым, а ўзмацовывае камунізм.

Справа ў тым, што

> крытыкі камунізму, паны: Вандэрвэльдэ, Мак-Дональд, Блюм і інш., — стараюцца ўзмацаваць Радавую Расею другімі дзяржавамі, рабіць з ею таргова ўмовы і т. д.

Наадварот, у адносінах да Польшчы заходня-эўрапэйскія сацыялісты займаюць дужа няпрыхільнае становішча:

> Цяпер істнуе такі уклад міжнародавых адносін, што ўсюды інтарэсы Польшчы знаходзяцца ў супярэчнасьці з палітыкай сацыялістычных партыяў.

Ну, калі ўжо нацыяналістычныя работнікі самі прызнаюцца, што гэтак дзеецца *ўсюды*,—дык ці ня трэба-б пашукаць прычыны гэтага, замест у заходніх сацыялістаў, у самай Польшчы?

Здаецца, што, ідучы ў гэтым кірунку, шмат лягчэй было-б знайсьці разьвязку пытаньня аб прычынах такога сумнага для Польшчы зьявішча!

Жартачкі: гэтак, значыцца, ня толькі III, але і II Інтэрнацыянал—вораг Польшчы!

# Палітычныя падзеі.

### Арышты камуністаў у Луцку.

Па загаду валынскага ваяводы (новага—генерала?) паліцыя пачала ліквідаваць новую камуністычную арганізацыю, якая рыхтавалася да „камуністычнага тыдня моладзі“. У часе вобыску арыштаваны 30 чалавек.

### Новы „дывэрсыйны напад“.

4-га верасьня ў 1 гадз. ночы ўзброеная банда з 40 душ напала на двор Астроўскай у Стадніках, Ровенскага павету.

Двор разграблены зусім, пасьля чаго банда адыйшла ў Міхаловіцкія лясы. Паліцыя і войска зараз-жа пачалі пагоню, і банда ўжо акружана ў лесе.

У тую-ж ноч 4 бандыты напалі на маёнтак Людвішчука, кала вёскі Віліі, Астроўскага павету, пачалася страляніна з паліцыяй, і бандыты скрыліся.

Каля Ляхова забіты адзін паліцэйскі.

Схопленыя бандыты паказалі, што бальшавікі націскалі на іх, каб яны стварылі банду і рабавалі, падбураючы да паўстаньня ў Польшчы, абяцуючы за гэта вялікую нагараду.

### Літоўскія страхі.

„Dz. Wil.“ прыводзіць амаль не цалком артыкул літоўскай газэты ў Клайпэдзе, якая раскрывае нейкі фантастычны загавор у Усходніх Прусах, каб захапіць Клайпэду.

Быццам Людэндорф маніцца абвясьціць Усходня-Прускую Рэспубліку, якая, зрабіўшы ўмову з Польшчай аб нэйтралітэце і даўшы Польшчы магчымасьць захапіць Літву, адбярэ ў Літвы Клайпэду, а пасьля, адабраўшы ад Польшчы Пазнань і Паморые, займе Данцыг і, аб'яднаўшыся з Баварыяй, верне Нямеччыне Сьлёнск, аб'явіць дыктатуру ўва ўсей Нямеччыне, ды зробіць умову з Расеяй.

Можа нешта падобнае і здарыцца калі, але ня гэтак яшчэ блізка.

### Замах на Мусоліні. (?).

Да Бэрліну даносяць з Рыму аб быццам зробленым замаху на Мусоліні: у ягоны аўтамабіль стралялі.

Афіцыяльнае італьянскае агенцтва пярэчыць гэтай вестцы.

### Магчымасьць роспуску англійскага парляманту.

Англійскія лібэралы выпусьцілі адозву пад загалоўкам “Ганебны дагавор“, у якой рэзка крытыкуюць англа-расейскую умову.

Калі лібэралы разам з кансэрватарамі адкінуць у парляманьце гэтую ўмову, ратыфікацыю якой Мак-Дональд бязсумліўна паставіць, як пытаньне аб даверы да ўраду, дык тады, перад тым, як падацца ў адстаўку, Мак-Дональд запытаецца ў краю выразнага адказу на гэтае пытаньне, гэта значыць—распусьціць парлямант і вызнача новыя выбары.

Трудна спадзявацца, каб хто іншы—ці вельмі слабыя лібэралы, ці скампрамітаваныя кансэрватары—мог узяць у свае рукі ўладу ў Англіі ў сучасны мамэнт...

### Гішпанскае панаваньне ў Марокко трашчыць...

Гішпанскі прэм'ер генарал дэ Рывэра афіцыяльна даносіць, што „палажэньне ў Марокко паляпшаецца“... Але толькі—няведама, для каго... Бо, як пішуць францускія газэты, камандзір гішпанскіх войск на важным адрэзку фронту каля Шэляту данёс, што ён ня можа ўжо вытрымаць націску паўстанцаў і просіць дазволу пакінуць пазыцыі, зьнішчыўшы ваенны матар'ял...

### Паўстаньне ў Грузіі.

„Роста“ публікуе гэткага зьместу афіцыяльную вестку:

„На горад Чыатурэ ў Грузіі напалі контр-рэвалюцыянэры—былыя ахвіцэры, князі і буйнейшыя купцы. Выступленьне гэтае зараз-жа было зьліквідавана. Павадыры яго арыштаваны. Гэткія-ж паўстаньні меншавікі арганізавалі і ў шмат якіх іншых мясцох, але ўсе зьліквідаваны самым мясцовым насяленьнем.

### Кітайскія справы.

Пагроза эўрапэйскіх дзяржаў умяшацца ў кітайскую хатнюю вайну—ўжо зьдзейсьняецца.

У Шанхаі высадзіўся з францускага браняносца атрад марской пяхоты. У запасе ёсьць яшчэ атрад „дабравольцаў“.

З Токіо прыйшоў таксама крэйсэр, які вязе сюды-ж 150 японскіх жаўнераў.

# Сэсія Лігі Народаў.

### Прамова Мак-Дональда.

На паседжаньні Лігі Народаў Мак-Дональд сказаў вельмі важную прамову, у якой заявіў паміж іншым, што Англія спадзяецца, што Амэрыка ў хуткім часе ўвойдзе ў склад Лігі, і выразіў жаданьне Англіі, каб справа ўваходу Нямеччыны да Лігі была вырашана безадкладна, бо без яе зусім немагчыма гаварыць аб справе міру, аб збраеньнях, бясьпечнасьці і істнаваньні малых народаў (?)

У Расеі таксама выяўляецца нейкая эвалюцыя паняцьцяў, з ёй заключаюць трактаты. Трактат з Англіяй якраз і павінен быць мастом для яе ў Лігу Народаў.

Кажучы аб справе разбраеньня і ўзаемнага забясьпечаньня ад вайны, англійскі прэм'ер кажа, пры агульнай сэнсацыі, што гэтую справу не павінны варашаць тыя палітыкі, якія правілі дзяржавамі ў часе апошняй вайны... Першы крок у гэтай справе, гэта—стварэньне раз'емчага трыбуналу, з чым згаджаецца і прэм'ер Францыі.

Але склікаць цяпер-жа канфэрэнцыю ў справе разбраеньня—ня мае сэнсу: трэба перш стварыць атмасфэру даверыя.

Мак-Дональд заявіў, што Англія адкінула

---

цкая Канфэрэнцыя! Няхай жывуць нашыя разьдзертыя Бацькаўшчыны!

Ад Грамады Студэнтаў-Эмігрантаў з Вялікае Украіны ст. Мухін прывітаў Канфэрэнцыю ў кароткіх словах з пажаданьнем як найбольшага ўсьпеху ў яе працы.

Ад Аб'яднаньня Студэнцкіх Эмігранцкіх Арганізацыяў Народаў Усходу Эўропы прывітаў Канфэрэнцыю с. Туган-Бараноўскі.

Ад Украінскай Акадэмічнай Грамады ў Празе прывітаў Канфэрэнцыю с. Чайківський. „Вы запачаткоўваеце вялікую працу, а праца гэта ня будзе чужою для Украінцаў, бо нядоля наша куецца для нас адным і тым самым цяжкім абухам“. Пажаданьнямі ўсьпеху Канфэрэнцыі закончыў сваё прывітаньне.

Ад літэратурнага студэнцкага таварыства „Вясёлка“ у Подебрадах вітаў канфэрэнцыю с. Маланюк. Насьледкам памылак нашых бацькоў, мы апыніліся на эміграцыі. Крысталізацыя моладзі павінна тут адбыцца як найхутчэй, тым больш у беларусаў. Моладзь здолее заўсёды стануць на варце інтарэсаў свайго народу, яна будзе дынамітатарам яго імкненьняў і жаданьняў.

Чытаецца прывітаньне Канфэрэнцыі ад Старшыні Рады Б. Н. Р. гр. Крэчэўскага.

Пад воплескі прысутных ухваляецца ад імя Канфэрэнцыі паслаць прывітальную тэлеграму Прэзыдэнту Чэха-Славацкае Рэспублікі п. Масарыку такога зьместу:

„Беларускае студэнцтва, сабранае на канфэрэнцыі ў Празе, вітае Вас, Пане Прэзыдэнце, як абаронцу і заступніка вызвольных імкненьняў студэнцкіх“.

Другую тэлеграму пастаноўлена выслаць

Старшыня Арганізацыйнага Камітэту дзякуе ў кароткіх словах усім, вітаўшым Канфэрэнцыю, і прапануе выбраць Мандатную Камісію. Прапазыцыя с. Станкевіча, каб функцыі Мандатнае Камісіі перадаць Арганізацыйнаму Камітэту, прыймаецца большасьцю галасоў, і Арганізацыйны Камітэт прыступае да праверкі мандатаў. Усяго прызнана 14, адкінены 2 мандаты. Пасьля гэтага дэлегаты прыступаюць да выбару Прэзыдыуму Канфэрэнцыі. Старшынёю выбіраецца с. Русак, сэкратарамі Каберац і Клімовіч.

Канфэрэнцыя прыступае да дакладаў. Ад Арганізацыйнага Камітэту робіць даклад Грышкевіч, Аб'яднаньня Беларускага Паступовага Студэнцтва—Каберац, ад Студэнцкае Сэкцыі Беларускае Грамады—Клаўсуць і ад Студэнцкае Сэкцыі (паступовае)—Яноўскі. Ад вілеяскага студэнцтва падробна дакладае аб жыцьці і яго запатрабаваньнях В. Грышкевіч. Пасьля дакладаў прыймаецца аднагалосна рэзалюцыя такога зьместу: „Канфэрэнцыя Беларускага Студэнцтва Заходняе Беларусі і Эміграцыі прыходзіць да перакананьня аб патрэбе стварэньня Цантральнага Выканаўчага Органу беларускага студэнцтва, які-б рэпрэзэнтаваў яго вонках і быў ягоным аб'яднаўчым органам“.

У часе дакладаў прывіталі яшчэ Канфэрэнцыю прадстаўнік Армянскага Студэнцкага Саюзу с. Турысьен і ад Грамадзкага Украінскага Камітэту гр. Сірий.

Пасьля перарыву Канфэрэнцыя пераходзе да справы утварэньня Цантральнага Органу Беларускага Студэнцтва. Сябра Грышкевіч чытае праект Статуту будучага Цантральнага Органу, выпрацаваны Арганізацыйным Камітэтам. Пасьля некатарых зьмен статут ухваляецца цалком, а разам і новай назвае беларускае студэнцкае арганізацыі:

„Аб'яднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў Заходняй Беларусі і Эміграцыі“. Для аканчальнага зацьверджаньня статут Аб'яднаньня будзе адданы Чэха-Славацкай уладзе. Да часовага Прэзыдыуму Аб'яднаньня выбраны: Грышкевіч В., (як старшыня), Гузоўскі М., Каберац і Яноўскі К., якім і даручана было далейшае вядзеньне справы арганізацыі беларускага студэнцтва.

У бягучых справах прыймаецца рэзалюцыя-пратэст проці палітыкі уціску і зьдзеку над беларускім насяленьнем у Польшы, як роўна-ж проці недапусканьня адчыняць беларускія школы і закрываньня ўжо істнуючых, проці няпрыманьня беларускае моладзі ў Унівэрсытэты і іншыя высокія школы Польшчы, калі яна не ваявала за Польскую Дзяржаву, і проці ўсей тэй палітычнай сыстэмы, якая скіравана да як найхутчэйшае палянізацыі беларускага народу і зьнішчэньня яго культуры.

Ухваленьнем яшчэ некалькіх драбнейшых і менш-важных рэзалюцыяў, па вычарпаньні павесткі дня, Канфэрэнцыя зачынілася. З радасьцю разыходзіліся дэлегаты з яе, раздумваючы над тым, якую вялікую справу распачала ў той дзень беларускае студэнцтва і як яно павінна будзе працаваць у будучыне, каб словы Я. Купалы:

... Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі!

зьдзейсьніліся ў самым блізкім часе.

Дык наперад да працы, Маладая Беларусь!

25./VIII. 1924 г. К—ц.
Прага Чэская.

праект трактату аб узаемных гарантыях, апрацаваны радай Лігі, але яшчэ не сказала аб гэтай важнай справе свайго апошняга слова.

У канцы, кажучы аб тым, што праца Лігі Народаў вельмі мала ведама шырэйшым кругам народаў, англійскі прэм'ер заявіў, што Ліга Народаў цікавіць увесь сьвет толькі тады, **калі яна робіць памылкі, як гэта было, напрыклад, са справаю Горнага Сьлёнску...**

### Справа аховы меншасьцяў.

У часе дыскусіі над справаздачай Рады Лігі англійскі дэлегат Муррэй сказаў прамову, у якой бараніў вельмі патрэбны і справядлівы прынцып аховы правоў нацыянальных меншасьцяў. Але ён также адзначыў, што сярод новых, атрымаўшых незалежнасьць, дзяржаўных народаў знаходзяцца часта асяродкі другіх народаў „недзяржаўных“, якія варожа адносяцца да сваіх „валадароў“.

Дык вось, задачай Лігі і павінна быць ухіленьне ўсякіх выплываючых з гэтага канфліктаў.

Ведама, што сябра Лігі, якая зьяўляецца „акцыянерным таварыствам“ толькі „дзяржаўных народаў“, і ня мог запрапанаваць радыкальнага вырашэньня справы меншасьцяў, бо інакш трэба было-б зачапіць інтарэсы гэных самых „акцыянераў“...

### Адмова мін. Скшыньскага.

Вельмі пікантна, што перад тым, як выбраць старшынёй камісіі да справы разбраеньня прадстаўніка Румыніі, гэтае „зашчытнае“ становішча рэжысэра Кангрэсу Лігі запрапанавалі... дэлегату Польшчы...

Але п. Скшыньскі, як паведамляюць польскія газэты, адмовіўся, каб мець вольныя рукі і язык у дыскусіі ў камісіі...

## ХРОНІКА.

**Зацьверджаньне канфіскаты.** Камісар Ураду на м. Вільню паведаміў нашую рэдакцыю аб тым, што 1./IX. 24 г. Акружны Суд у Вільні на гаспадарчым паседжаньні ў 1 Аддзеле Карным, разгледзіўшы прапазіцыю Пракурора пры Акружным Судзе ў Вільні, пастанавіў зацьвярдзіць канфіскату № 17 „Сына Беларуса“ ад 23./VIII 1924 г.

**У Віленскай Беларускай Гімназіі.** Паводле інфармацыяў, атрыманых намі ад Дырэкцыі Гімназіі, наплыў новых вучняў у Гімназію сёлета значна павялічыўся. Ужо ў гэты мамэнт агульная лічба вучняў на 15% вялікшая за леташнюю, а да 15 верасьня, судзячы паводле пададзеных заяваў, узрасьце да 25—30% % проці леташняе.

Вельмі важна адзначыць, што наплываюць усё больш і больш элемэнты вясковыя, дзеці сялянскія; гэта ясна паказвае, што беларускія сяляне, байкатуючы польскія школы, разумеюць вагу навукі наагул і пры тым выяўляюць усё ўзрастаючую нацыянальную сьвядомасьць. Ня менш важна і тое, што з гэтых сялянскіх дзяцей—бязспрэчных беларусаў вырастуць новыя пакаленьні беларускіх культурных працаўнікоў, якія і павядуць свой народ да лепшае долі.

Сяляне! Не пазьніцеся, хто толькі дуж, слаць сваіх дзяцей у сваю родную беларускую школу!

**Аб адсрочцы вайсковае службы.** Згодна з увайшоўшым у жыцьцё 21-га жніўня ўставам аб адсрочцы вайсковае службы, просьбы аб льготы могуць падаваць прызыўныя самі, ці праз сваіх паўнамоцнікаў, а такжа іх бацькі (маці нават няшлюбная), браты і сёстры одныя рі зродныя (з шлюбнага ці няшлюбнага супружства).

Да просьбы трэба далучыць:

1) пасямейны сьпісак з паказаньнем усіх членаў сям'і, незалежна ад таго, ці жывуць разам, ці асобна, або адпаведнае пасьведчаньне гміны ці магістрату з пералічэньнем усіх членаў сям'і іх мэтрыкі;

2) пасьведчаньне гміны аб стане маемасьці прасіцеля (вартасьць і даход з маемасьці), а так-жа аб тым, ці заінтарасаваныя асобы не атрымліваюць якіх колечы дапамог—урадавых, ці прыватных.

Адсрочка службы ў сталым войску, згодна з 53-а і 54 артыкуламі уставу, можа быць дадзена:

а) адзінаму сыну няздольных да працы бацькоў, удавы ці ўдаўца, а такжа адзінюку няздольнае да працы няшлюбнае маткі;

в) адзінаму роднаму ці зроднаму брату няздольных да працы сірот, як шлюбных, так і няшлюбных;

с) сыну, ці брату, брат або браты якога 1) адбываюць фактычна службу ў сталай арміі на аснове агульнае вайсковае павіннасьці, 2) маюць менш за 15 гадоў, 3) няздольныя ні да якое працы дзеля заробку з прычыны калецтва або няпоўнага розуму, 4) выэмігравалі ня менш, як 5 лет назад, стала жывуць заграніцай і не прысылаюць дапамогі.

Таксама можа быць дадзена адсрочка і ў выпадку, калі рэкруту асталася ў спадчыну па бацькох гаспадарка.

Урэшце з адсрочкі могуць карыстаць вучні-рамесьнікі (тэрмінатары), якія працуюць у цэхавых майстроў. Ім адсрочка можа быць дадзена толькі да 22 гадоў.

Адсрочкі для вучняў народных, сярэдніх і вышэйшых школ у новым уставе даюцца ў тых самых выпадках, як было установлена і раней.

**Для ведама арандароў.** Арандары, што на чужой зямлі пабудавалі будынкі, на аснове закону, прынятага Соймам 31 ліпня сёл. г., з будынкаў гэтых ня могуць быць выгнаны аж да 1926 г., хоць-бы і арэнды не плацілі. Але гэты закон, здаецца, будзе, як таму цыгану, лыжкай па абедзе, бо закон уваходзіць у жыцьцё толькі 1 кастрычніка сёл. г.

## Аб мэтрыках.

Згодна з загадам Віленскай Духоўнай Кансісторыі ад 28 красавіка 1923 года за № 1608, дзе ў § 2 гаворыцца: „Согласно § 7 „Временныхъ Правилъ“ ввести съ 1-го іюля с. г., т. е. второй половины года, запись метрикъ на двухъ языкахъ—государственномъ и мѣстномъ“...—некаторыя сьвяшчэнікі з Лідзкага дзеканату хацелі пісаць мэтрыкі на будучы атчотны год па беларуску, іменна як у мове тутэйшай (мѣстномъ языкѣ) побач з мовай гаспадарства. Аб гэтым парадзіліся з сваім дзеканам. Але той рашуча забараніў гэта, сказаўшы, што такіх мэтрык прыймаць і пераглядаць ня будзе, ды што ён загадуе пісаць мэтрыкі ў мове расейскай.

Сьцярпеўшы гэта раней, нельга абыйсьці цяпер—пасьля афіцыяльнага прызнаньня правоў беларускае мовы ў Польшчы, дый прыходзіцца запытацца: што гэта такое?

Калі „Вр. Пр.“ прадуглядаюць пісаньне мэтрык, побач з мовай гаспадарства, у мове тутэйшай, і Кансісторыя загадуе—перад усім дзекану, а патым духавенству, ды калі гэты дзекан перазагадуе на свой лад, бо можа ня ведае беларускай граматы, чы можа па старадаўняй памяці і папсаванай крыві (бо сам паходзіць з Горадзеншчыны) сьвядома русыфікуе наш народ, — дык чаму беларускае грамадзянства й сялянства ня можа мець мэтрык у сваей мове, хоць бы й побач з мовай гаспадарства? На карысьць каго гэта робіцца? Тым больш, што ад 1 ліпня 1923 г. ўсе мэтрыкі аб нарадзіўшыхся, памершых і павянчаных выдаюцца толькі ў мове гаспадарства. І калі законам адпушчаны нязначны, але маючы для нас вялікае значэньне, куток у мэтрыках для нашай роднай мовы, дык і яго некаму трэба заткнуць чым іншым, каб ня было відаць і чуваць гэтай „простай“ мовы....

Безкарысна было рэагавацца на гэта раней, але цяпер павінна наступіць ня проста рэагаваньне, а абурэньне ўсяго беларускага грамадзянства проці такіх учынкаў, дамагаючыся, каб побач з мовай гаспадарства мэтрыкі пісаліся па беларуску.

**Сьвяшчэнік.**

## Весткі з вёскі.

*Барацьба за стары стыль у царкве і за незалежнасьць праваслаўнага духавенства.*

**Жыровіцы.**

(Ад уласнага карэспандэнта).

15/28 жніўня 1924 г. Жыровіцкі Манастыр у Заходняй Беларусі адсьвяткаваў свае прастольнае сьвята Усьпеньня Прачыстае Багародзіцы. Больш трох тысячаў богамольцаў сабралася ў гэты духоўны цэнтр Беларусі з Слонімскага, Ваўкавыскага, Косаўскага, Баранавіцкага і Пружанскага паветаў. Але ані адна асоба не зайшлася ў вялікую Усьпенскую царкву, дзе адпраўляла набажэнства па новаму стылю духавенства, прысланае афіцыяльнай варшаўскай гіерархіяй, якая захапіла манастыр.

Вялікае множства прыйшоўшых багамольцаў гуртавалася каля старога, назначанага Патрыархам Ціханам, глыбока паважанага акалічным насяленьнем архім. Ціхана, якога нядаўна скінула з яго становішча варшаўская гіерархія на жаданьне міністэрства вызнаньняў.

Урачыстасьці адбываліся ў працягу двух дзён, пры чым да тысячы душ народу адбыла агульную споведзь і прыняла прычасьце. У канцы было абвешчана многалецьце Патрыарху Ціхану, кананічнаму горадзенскаму ўладыцы Валадзімеру, вывезенаму польскаю ўладаю, а ўрэшце архім. Ціхану.

Манахі, ў сувязі з прыняцьцем імі новага стылю, аказаліся пазбаўленымі вялікіх даходаў, зьвязаных з гэтым традыцыйным сьвятам, — дык усе яны вельмі ўзварушаны. Паліцыя была тут увесь час, але да нічога не мяшалася. Прадстаўнікі ўлады, пасьля гэткае вялізарнае народнае дэманстрацыі проці польскіх навін у праваслаўнай царкве, ня ведаюць, што рабіць, бо пераканаліся, што завясьці новы стыль у народнае жыцьцё проці волі народу і „выкінуць“ угоднага народу Ціхана—ня так-то лёгка!

**Жыравіцкі багамолец.**

**З Дунілавіцкага пав.,** Мадзёльскай вол.

Цяжкі лёс спаткаў нашага вясковага селяніна. Трэба плаціць падаткі за падаткамі, а грошай няма, няма адкуль узяць. Вядома, сялянскае ўсё дзёшава, аддай за паўцаны, і то трэба сказаць дзякуй, што хаця хто ўзяў.

Надовячы, калі прыехалі спаганяць падаткі з валасьці, якраз у гэту часіну мала было ў каго і злотых. Што-ж, замест злотых пачалі браць: сьвіньні кажухі, сьвіткі і т. д.

Цяжка было глядзець на тое, што тварылася ў вёсцы. Калі ўсё гэта скончылася, і гэтыя валасныя панічы паехалі, народ павыходзіў на вуліцу, і гутарылі паміж сабой дужа няпрыгожыя словы, гэтак сама і вясковыя кабеты пазьбіраліся ў кучку і гаманілі на ўсю вуліцу. Адна крычэла: „А што я казала? Што гэтыя паны давядуць да торбы, што пойдзем жабраваць усе, але ня будзець куды йсьці!“. Вядома, калі ў каго ўзялі паршука за падаткі, дык гэтыя панове шмат і дзёшавей заплацяць, як трэба заплаціць.

Няведаю, як гэта робіцца ў другіх валасьцёх, але як у нашай, дык дужа дрэнна: народ вельмі наракае на пасланых да нас гмінных урадоўцаў, ды быццам-то „выбарнага“ войта...

Надовячы былі арыштавалі вучняў VI клясы Віленскай Беларускай Гімназіі, каторыя пражывалі ў сваей роднай вёсцы. Прычына арышту невядома, толькі іх быццам ужо звольнілі, але прышлося зганяць у пастарунак, а потым у павет, каторы знаходзіцца ў трыццацёх вярстах.

Апошнія радкі можа і зусім ня прымеце, але пісаць пішу. Пішу гэта аб лес, каторы жаліцца сваім нямым гоманам і хоча, каб ягоны гоман напомніў хоць апошнюю часіну, каторую ён перажывае, — хоча сказаць нам свае словы.

Сумна нам, сумна сасонкам,
Тыя, што ёсьць у бару,
Многа гадоў мы стаялі
Добра адзеты ў кару.

Быў тут і вораг, і кулі, —
Пелі нам гімны яны,
Гэтак гарматы гудзелі...
Усё праляцела, як сны.

Толькі цяпер нас спаткала
Сьмертухна тая вайны:
Хмары чужынцаў нагнала, —
Рэжуць, сякуць нас яны.

**Сымон Шчасны.**

## З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

**Аб перасяленьні беларускага сялянства.**

Мы ўжо зварачалі ў сваім часе ўвагу на дужа дзіўныя весткі ў беларускіх радавых газэтах, у якіх адзначалася, што гэтулькі-то беларускіх сялян тады і тады выяжджала на жыцьцё ў вялікарускія губэрні. Вось-жа на гэта зьвярнулі, відаць, увагу і ў Менску, бо ў адным з нумароў „Сав. Бел.“ чытаем такую вестку:

Пэрыад масавага перасяленьня беларускага сялянства ў іншыя месцы Саюзу закончыўся.

Найбольшае ажыўленьне ў перасяленьні сялянства з Беларусі было ў мамэнт далучэньня да БСРР Усходняе Беларусі. Гэта тлумачыцца тым, што Віцебскі і Гомельскі губ. вык. камітэты яшчэ да пашырэньня БСРР зрабілі ўмову з Наркамземам РСФСР аб перасяленьні ў Паволжа часткі сялянства Віцебскай губ. і Калінінскага павету — Гомельскай губ. З паказаных районаў, пасьля пашырэньня БСРР, перасялена ў арганізаваным парадку каля 4.000 душ сялян.

Усе адпраўленыя сяляне, пры дапамозе НКЗ РСФСР, ужо ўстроены.

Што тычыцца далейшага перасяленьня, то тут справа трохі інакшая.

Цяпер Наркамзем БСРР заняты вывучэньнем таго, ці ёсьць сэнс наагул перасяляць сялян з Беларусі, з прычыны таго, што для гэтай мэты можна выкарыстаць зямельныя фонды Беларусі.

У зьвязку з гэтым, органамі зямлябудаўніцтва цяпер спынена перасяленьне.

Прымаюцца крокі да спыненьня перасяленьня „самацёкам“. Справа ў тым, шта сяляне, якія выяжджаюць у неарганізаваным парадку, на месцы не атрымліваюць ніякай дапамогі. Папаўшы ў новае месца, гэтыя перасяленцы часта ўпадаюць у вялікую беднасьць і шмат каму прыходзіцца нават вяртацца на старое месца.

У сувязі з гэтым паведамленьнем „Сав. Бел.“ цікава адзначыць, што ўрад Радавае Украіны забараніў асядаць у яе межах перасяленцам з другіх Рэспублік.

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!***



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**